№ 78 (1143)
Субота, 28 красавіка 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 100 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас



**У сувязі з выхаднымі і святочнымі днямі наступны нумар "Народнай волі" прыйдзе да чытача ў чацвер 3 мая.**



# БАЛІЦЬ ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ РАНА

## На "Чарнобыльскім шляху" міліцыя адпачывала

На плошчы Свабоды спачатку сабралося вельмі мала для такой значнай акцыі народу. Магчыма, людзі проста не ведалі, куды ісці, бо да апошняга моманту дакладнай інфармацыі наконт правядзення "Чарнобыльскага шляху" не было. Адсутнічалі ўлёткі ў паштовых скрынях, наклейкі ў грамадскім транспарце, раскіданыя запрашэнні ў шматлюдных месцах горада.

Складвалася ўражанне, што нават тыя, хто ўсё ж такі прыйшоў на плошчу, не ведалі, што рабіць. Прыкладна каля гадзіны ў незразумелым чаканні людзі самотна тапталіся ў скверыку. Супрацоўнікі спецслужбаў у цывільным ёрнічалі: з дзвюх тысяч сабраўшыхся паўтары тысячы нашых. Прыбліжоныя да міністра ўнутраных спраў асобы паведамілі: маўляў, можаце гуляць, дзе заўгодна, міліцыя сёння адпачывае.

І на самай справе адбыўся цуд. На вуліцах Мінска практычна не было міліцыі. Па ўсім маршруце ў прылягаючых дворыках не сталі аўтобусы з курсантамі міліцэйскай Акадэміі, амапаўцамі, салдатамі, як гэта заўжды бывае ў тыя дні, калі апазіцыя ладзіць свае мерапрыемствы. Афіцыйную прысутнасць ахоўнікі правапарадку пацвердзілі, калі да сквера пад'ехала службовая "Волга", з якой пераканаўча папрасілі *"не парушаць грамадскі парадак і правіла правядзення масавых мерапрыемстваў"*. Улады забаранілі праводзіць мітынг на плошчы Свабоды і, як заўсёды, прапанавалі апазіцыі ісці на плошчу Бангалор.

Але на "сабачую пляцоўку" народ не пайшоў. Людзі, не замінаючы дарожнаму руху, арганізавана рушылі па праспекце Скарыны. На прыступках ля Акадэміі навук адбыўся кароткі мітынг. Між іншым, чаму б Мінгарвыканкаму не кінуць сваю старую звычку і не дазволіць апазіцыі праводзіць мітынгі менавіта тут. Амаль цэнтр горада, пляцоўка добрая, месца хапае і ад рэзідэнцыі А.Лукашэнкі далёка.

На паўгадзіны пазней каля Галоўпаштамта на свой "Чарнобыльскі шлях" збіраліся прыхільнікі Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі — БНФ, якой кіруе Зянон Пазьняк. Прыйшло ўсяго некалькі дзесяткаў чалавек... Нават у такі дзень апазіцыя не змагла дасягнуць паразумення і згоды. Чым, верагодна, у чарговы раз вельмі парадавала ўлады.

Беларускае тэлебачанне ў сваім рэпартажы з "Чарнобыльскага шляху" сканцэнтравала ўвагу на дзецюках, якія былі апрануты ва ўсё чорнае і па-фашысцку ўскідвалі рукі. Пытанне да арганізатараў: навошта даваць повад для чарговых здзекаў і крытычных заўваг розным казіяткам і зімоўскім? Калі гэта сапраўды "Чарнобыльскі шлях", усё павінна адбывацца менавіта ў рамках гэтай тэматыкі.

Дарэчы, прыкладна семдзесят працэнтаў з тых, хто выйшаў на "Шлях", была моладзь. Юнакі і дзяўчаты запальвалі памінальныя свечкі, званілі ў званочкі, размахвалі бел-чырвона-белымі сцягамі. У першых радах калоны ішлі тыя, хто будзе адраджаць Беларусь. Ім па трынаццаць—чатырнаццаць год. Але пакуль яны вырастуць, Лукашэнка састарыцца...

**Марына КОКТЫШ, Марыя ЭЙСМАНТ.**

## Заява Амбасады ЗША з нагоды 15-й гадавіны чарнобыльскай катастрофы

У пятнаццатую гадавіну катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі Амбасада Злучаных Штатаў далучаецца да ўшанавання ахвяраў Чарнобыля і памятае аб тым велізарным, доўгатэрміновым уроне, што нанесла гэтая катастрофа Беларусі і яе грамадзянам. Гэта была трагедыя, наступствы і ліквідацыя якой не ведаюць межаў.

На працягу апошніх пятнаццаці год урад Злучаных Штатаў і шэраг амерыканскіх няўрадавых арганізацый аказвалі актыўную падтрымку аздараўленню беларусаў і агульнаму выпраўленню сітуацыі на Беларусі. У мінулым годзе Злучаныя Штаты прадаставілі Беларусі гуманітарнай дапамогі больш чым на 15 мільёнаў долараў. Кожны год такія амерыканскія арганізацыі, як "Сіціхоўп" і Амерыканскі альянс "Дзеці Чарнобыля" дасылаюць гуманітарную дапамогу і валанцёраў на Беларусь і адпраўляюць тысячы дзяцей з забруджаных тэрыторый на лячэнне ў Злучаныя Штаты. Урад ЗША зараз завяршае рэканструкцыю шпіталя ў Гомелі, якая каштуе 450 тысяч долараў, і будзе і надалей імкнуцца ўдзельнічаць у іншых праектах па дапамозе Беларусі ў пераадоленні наступстваў катастрофы. Мы ўпэўнены, што калі беларуская эканоміка будзе стаяць на моцнай рынкавай аснове, беларускія ўлады будуць здольныя рэгулярна выдаткоўваць больш рэсурсаў на гэтыя мэты.

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па краіне захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, пераважна без ападкаў. Вецер слабы. Тэмпература паветра ў Віцебску — +12...+14, Магілёве — +13...+15, Мінску, Гродне — +14...+16, Брэсце, Гомелі — +15...+17.

У наступныя двое сутак пераважна без ападкаў, толькі 30-га па паўночным захадзе кароткачасовыя дажджы. Вецер паўднёвы, слабы. Тэмпература паветра ўначы — +6...+11, удзень — +16...+21, месцамі да +23.

### Якім чакаецца пачатак мая?

Сіноптыкі гавораць, што ў выхадныя нас чакаюць цёплыя і сонечныя дні. Тэмпература паветра складзе ўначы 6—10 градусаў цяпла, а днём — 18—23 градусы. Такое надвор'е захаваецца да 3—4 мая. А з 5 мая пачне наступаць вільготнае паветра з Атлантыкі, і ў Беларусі пройдуць сапраўдныя майскія дажджы.


Фота IREX/ProMedia.

**ГАЛАСЫ З КАЛОНЫ**

## Не пагаснуць зоркі ў небе

*Самае, бадай, цікавае на любой грамадзянскай акцыі — аб чым думаюць так званыя простыя ўдзельнікі.*

*Што прывяло Вас на "Чарнобыльскі шлях-2001"? На гэтае пытанне "Народнай волі" адказваюць:*

**Міхась АНТОНІК, авіядыспетчар аэрапорта "Мінск-2":**

— Бачу, вы пазнаёміліся ўжо з маёй жонкай Вольгай і трохгадовым сынком Артурам. Я іх вельмі люблю і хачу засланіць ад усіх бедаў. А вось нашу мілую дачушку-весялушку — гэта яе партрэт я трымаю ў руках — уратаваць не ўдалося... Чарнобыль адабраў яе. І мой маральны доўг — выказаць пратэст супраць безабароннасці ні ў чым не вінаватых ахвяр катастрофы, асабліва дзетак, загінуўшых без пары.

**Тамара БАРТАШЭВІЧ, пенсіянерка:**

— Чарнобыль — не толькі ў чарнобыльскай зоне, ён — ва ўсім нашым жыцці. Ці не праўда? Людзі бядуюць, мучаюцца і паміраюць — адно за адным. Як з такім змірыцца?! Я 35 год адпрацавала на вытворчасці, а пенсія — курам на смех: ні на хлеб, ні на лекі не хапае. Сорамна прызнацца, што на старасці год даводзіцца збіраць пустыя бутэлькі... Але хай лепш будзе сорамна тым, хто давёў нас да такога.

**Сяргей, навучэнец беларускай гімназіі №4 г.Мінска:**

— Я тут не адзін, а з сябрамі. Нам па трынаццаць, мы нарадзіліся ўжо ў чарнобыльскую эру. Шкада, што ад настаўнікаў не многа чулі аб гэтай жудаснай катастрофе. А забудзем пра яе, дык яна можа паўтарыцца, яшчэ і ў страшнейшым варыянце. Не, не і не! Нам трэба вырасці і зрабіць нешта добрае для сябе і Беларусі.

**Надзея ДЗЕМІДОВІЧ, былая вязніца ГУЛАГа:**

— Памятаю, як у далёкім 56-м вярталася з Тайшэцкага лагера і ўсю дарогу аж да Урала (а гэта тысячы кіламетраў) бачыла з акенца вагона ўздоўж чыгункі адно і тое ж, добра знаёмае: калючы дрот, начныя агеньчыкі на вартавых вышках. Здавалася, уся савецкая краіна — суцэльны лагер... Цяпер жа за "калючкай" — зона адсялення, ладная частка беларускай зямлі — ахвяры злачыннай безадказнасці кіраўнікоў той, ужо зніклай дзяржавы. Але ў нас яшчэ пакуль свой дом, і мы не аддадзім яго нікому, адродзім наноў. І я шчаслівая, што жыву на сваёй зямельцы, і спадзяюся, што для яе настануць лепшыя часы. Чуеце, пяюць?

*Не пагаснуць зоркі ў небе,*
*Покуль неба будзе.*
*Не загіне край забраны,*
*Покуль будуць людзі...*

**Святлана КЛІМЕНЦЕНКА.**

## "Адкрывайце ў сабе мужнасць..."

*Дэкрэт прэзідэнта Беларусі № 8 "Аб некаторых захадах па ўдасканальванні парадку атрымання і выкарыстання замежнай бязвыплатнай дапамогі" "практычна забараняе хуткую і эфектыўную гуманітарную дапамогу для жыхароў рэгіёнаў, пацярпелых ад Чарнобыля". Такое сцвярджэнне змяшчаецца ў рэзалюцыі V міжнароднага кангрэса "Свет пасля Чарнобыля", распаўсюджанай у сувязі з 15-й гадавінай аварыі на Чарнобыльскай АЭС.*

Гэты буйны грамадскі форум праходзіў у Мінску. На ім прысутнічалі больш за 300 чалавек з 15 краін. Сярод удзельнікаў кангрэса былі жыхары забруджаных радыяцыяй раёнаў Беларусі, вучоныя, урачы, парламентарыі, святары і актывісты чарнобыльскіх ініцыятыў.

У прынятай імі рэзалюцыі адзначаецца, што праз 15 гадоў карціна чарнобыльскай катастрофы праяўляецца яшчэ дакладней, а вырашэнне "ўсё ўзрастаючых сацыяльных, гуманітарных і палітычных праблем" патрабуе ўсеагульнай салідарнасці.

У гэтай сувязі ўдзельнікі кангрэса заклікаюць прадстаўнікоў МАГАТЭ не ўтойваць вынікі навуковых даследаванняў, атрыманыя Сусветнай арганізацыяй аховы здароўя (СААЗ), "адкрыта, сумленна і поўна інфармаваць грамадскасць аб небяспеках атамнай энергіі і наступствах катастрофы на ЧАЭС". Урачы і спецыялісты СААЗ, якія даследуюць наступствы радыяцыйнай катастрофы, адзначаецца ў рэзалюцыі, павінны мець магчымасць бесперашкодна рабіць паведамленні аб выніках навуковых даследаванняў. Удзельнікі кангрэса заклікаюць МАГАТЭ змяніць першы артыкул дагавора Міжнароднага агенцтва па атамнай энергіі, заключанага з СААЗ у 1959 годзе. "Абедзве гэтыя арганізацыі павінны мець права даваць грамадскасці інфармацыю аб выніках іх працы, не пытаючыся адзін у аднаго згоды на гэта", — падкрэсліваецца ў рэзалюцыі кангрэса.

У рэзалюцыі змяшчаецца зварот да афіцыйных структур Беларусі з заклікам "зрабіць усё магчымае для пераадолення геаграфічных і палітычных межаў, каб дапамога ад чалавека да чалавека знайшла кароткі шлях". Ад улад, у прыватнасці, патрабуюць спрасціць памежныя працэдуры, знізіць мытныя пошліны на гуманітарныя грузы, паскорыць афармленне іх праходжання цераз мяжу і гарантаваць неадкладную дастаўку гуманітарнай дапамогі атрымальнікам.

Напрыканцы рэзалюцыі кангрэса гаворыцца: "Не дазваляйце адчаю і безвыходнасці пасяліцца ў вашых душах, адкрыйце ў сабе мужнасць, сілу і салідарнасць. Каб супрацьдзейнічаць забыццю, нам неабходны дух новага мыслення і такія дзеянні, якія накіраваны на стварэнне супольнасці, дзе галоўным прынцыпам будзе зацвярджэнне правоў чалавека, міру, справядлівасці, дэмакратыі і захавання ўсяго, што створана Творцам".

**Марат ГАРАВЫ.**

**ОСТРЫЙ ВЗГЛЯД**

## Путь утомленных

**Вячеслав ОРГИШ, доктор философских наук**

Когда садился писать этот материал, по привычке включил телевизор. Канал НТВ начинал крутить фильм "Игры патриотов". Не знаю, о чем эта лента, не было времени, чтобы посмотреть. Но название ее эхом отозвалось в размышлениях о политическом мероприятии, которое организовала белорусская оппозиция в день 15-й годовщины чернобыльской трагедии.

Пройдут многие десятилетия, прежде чем наша страна, уняв боль и изжив обширные радиоактивные ожоги, станет воспринимать эту катастрофу как прошлую историю, как летописный факт. Сегодня эту чудовищную рану невозможно зарубцевать при помощи одних материальных средств, тем более что государство выделяет их крайне скудно и нерегулярно.

Пострадало не только тело, но и душа народа. Лучшим лекарством для последней является правда. О виновниках трагедии и тех, кто наследовал их традиции, нравственную и политическую культуру, то есть о нынешнем белорусском режиме. Оглашать эту правду, превращать ее в набат, который не дает молчать совести и побуждает к бдительности, призвана оппозиция. Лицемерие и формализм власти преодолеваются неподдельным переживанием и состраданием тех, у кого душа от рождения патриотка, для кого "жила бы страна родная" — сладчайшая из мелодий.

Помните, еще в середине 90-х, когда 26 апреля оппозиционные партии выводили на уличное шествие десятки тысяч людей, Беларусь превращалась в единый хор, исполнявший реквием жертвам Чернобыля. И власть трепетала потому, что правда о ней, изреченная в порыве всеобщего трагического негодования, была пострашнее любых политических интриг, опаснее самых изощренных планов оппозиции. Белорусский режим приводил в действие все свои силовые и пропагандистские ресурсы, чтобы нейтрализовать идейный и нравственный урон, который он нес в результате массовых акций белорусских патриотов в день чернобыльской годовщины.

На этот раз состоялся *необычный* Чернобыльский шлях. В этом предложении ключевое слово "необычный". Минчане стали свидетелями рядовой политической акции, которая, увы, лишь формально и схематически напоминала аналогичные акции прошлых лет. Уровень предварительной подготовки мероприятия его организаторами был заметно ниже уровня подготовки к нему генерала Наумова и его гвардейцев. Сравнительно малая численность собравшихся даже стала предметом саркастических разговоров переодетых в штатское работников спецслужб. Пожалуй, демонстрантов тысячи три наберется, если считать полторы тысячи наших людей, заметил один из них. Впрочем, МВД эту цифру скорректировало, определив число собравшихся в две с половиной тысячи.

Вместо борьбы патриотов как смысла их жизни мы увидели игры патриотов. По настроению примерно такие, какие видим на футбольном поле или сценических подмостках, когда футболисты или актеры играют очередной спектакль. Играют профессионально, но с оскоминой и усталостью, по необходимости отрабатывая талоны на питание.

Как говорится, есть над чем задуматься.

Площадь "Свободы" видела разные политические собрания, на ней сходилось когда больше, когда меньше митингующих. Но, вероятно, еще никогда не случалось такого, чтобы собравшиеся на политическую акцию люди обнаруживали уныние и какую-то непривычную робость. Даже молодые люди 15—17 лет, которым свойственна импульсивность и нетерпение, выглядели притихшими и слегка растерянными.

Присмотревшись, можно было понять: организационная душа мероприятия до площади не дошла. Нельзя сказать, что организаторов не было совсем. Были. Но были как-то неприметно и, главное, без всякого куража. Оттого, по-видимому, и рядовые митингующие в полной мере не ощущали воодушевления. Там-сям изредка мелькали фигуры видных политических деятелей. Но они вели себя так, словно им дела нет до происходящего, будто их привлекло к событию чистое любопытство. Многие и вовсе отсутствовали. Пожалуй, заметен был один Вячеслав Сивчик — секретарь управы БНФ "Адраджэньне". Он одиноко и деловито исполнял роль представителя от заявителей акции.

Шествие по проспекту Скорины до Академии наук было таким же тусклым и эмоционально вялым, каким было стояние на площади Свободы. Выкрикивали привычные лозунги, клеймили позором режим, требовали к ответственности тех, кто организует в стране политический Чернобыль. Впереди колонны шла группа молодых людей в униформе, которые своим видом должны были демонстрировать решительность и силу оппозиции.

Однако их жесты и реплики были не очень убедительны. Гораздо убедительнее было бы нахождение во главе колонны известных деятелей науки, культуры, производства. Но их не было. Не возглавили колонну будущие кандидаты в президенты (не могу сказать, присутствовали ли они вообще). Не пошли впереди демонстрантов и ведущие политики от оппозиции. Последние то ли посчитали ниже своего достоинства стать впереди, то ли убоялись милицейско-омоновских "наездов" и предпочли добираться к приступкам Президиума Академии наук окольными путями. Воистину, набрались мудрости.

И были посрамлены. Милиция исчезла. На всем протяжении шествия и во время митинга в пределах видимости ее просто не было. Пиаровский ход "Красного дома" удался. Телевизионную картинку-отчет об оппозиционной акции казенные толмачи, надо думать, будут долго сопровождать комментарием о том, что в Беларуси с демократией все-де обстоит наилучшим образом, поскольку даже несанкционированные митинги проходят в отсутствие милиции.

Что же случилось? Почему в связи с прошедшим о мероприятии, которое начиналось скромным собранием на площади Свободы и закончилось скромным митингом у белорусского храма науки, подмывает сказать: "Господа, это кризис жанра?"

Когда я наблюдал и оценивал работу организаторов "шляха", у меня в голове неотступно вертелась строчка из песни Булата Окуджавы: "Мой конь притомился, стоптались мои башмаки...". У всего есть свой ресурс. Самые прочные вещи, в конце концов, теряют свои лучшие свойства. Даже металл становится усталым.

Белорусская оппозиция притомилась. В действиях демократических сил ощущается усталость. Дело не только в не слишком удавшемся чернобыльском мероприятии. Последние полтора года картина политической жизни с участием оппозиционных партий и движений все более отчетливо напоминает зрелище уныло бредущих вдоль берега бурлаков. Оппозиционеры стонут и бранятся между собой, но при этом вполне покорно топают привычным маршрутом. Их действия становятся все более предсказуемыми, и нынешнему режиму все проще с ними управляться. Демонстративное "исчезновение" милиции во время нынешнего "шляха" — красноречивое тому подтверждение.

Обычная практика, когда притомившиеся, отслужившие свой срок работники уходят на пенсию, а на их место заступают молодые, со свежими идеями и воображением люди. Без ротации кадров не может быть развития в деле. Сегодня рассчитывать на второе дыхание оппозиции, не наполняя ее свежей кровью, не приходится. Понять это особенно важно в канун президентских выборов.

Отрадно, что "Чарнобыльскі шлях-2001" большей частью состоял из молодых людей. Не менее отрадным будет, если их молодая энергия и ясный ум окажутся востребованными в политическом руководстве оппозиции. Тогда можно надеяться, что наши патриоты из опрофессионалившихся игроков вновь превратятся в борцов за национально-культурное возрождение Беларуси. И добьются того, что сегодня не под силу нашим изрядно уставшим ведущим демократам.

**ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ**

## "Зубры" ставяць дыягназ



Суды над удзельнікамі акцыі "Канчатковы дыягназ", прысвечанай дням псіхічнага здароўя, адбыліся 25 красавіка ў Партызанскім судзе Мінска. Як ужо паведамлялася, гэтая акцыя прайшла ў мінулую суботу ў парку імя Горкага. Праз судовы канвеер пад кіраўніцтвам суддзяў Трубнікава і Дзямніцкай было прапушчана больш за 30 актывістаў маладзёвага руху "Зубр".

Нагадаем, што 21 красавіка пры галоўным уваходзе ў парку імя Горкага сабралося каля дзвюх тысяч чалавек. Маладыя людзі актыўна раздавалі прысутным разнастайную прадукцыю: газету "Зубр", відэакасеты, значкі "Мне вядома, хто самы галоўны дурань у краіне", спецвыпуск газеты "Наша свабода", прысвечаны стану псіхічнага здароўя А.Лукашэнкі, наклейкі-стыкерсы.

Студэнты апраналі маскі з выявай лысага вусатага чалавека і белыя халаты. Пачалі разварочвацца конкурсы: "Крык-4" (на лепшы крык, які робяць уначы дыктатары), "Дыягностыка" (чарга вусатых людзей стаяла да доктаркі з мэтай праверкі псіхічнага здароўя), настольны хакей (людзі ў масках з азартам спрабавалі выйграць адзін у аднаго).

Пры гэтым усе "героі" з вусамі размаўлялі толькі вядомымі фразамі з набору ўладнай асобы кшталту "гдзе нармальныя чалавечаскія яйца" ці "я не люблю Амерыку". Людзей абсалютна бясплатна фатаграфавалі на фоне скручанага ў супакойную кашулю мазаічнага псіхапата з вусамі, які час ад часу спрабаваў вырвацца і, кульгаючы, збегчы, але здаравенны санітар вяртаў яго на месца, і той у скрусе ад няўдалага ўцёку завываў старую песню "Чорны воран".

Затым з'явіліся лыжнікі ў масках з вусамі, якія з лямантам прабеглі праз увесь паркавы пляц і рынуліся... у ваду Свіслачы. Перайшоўшы рэчку, яны дабраліся да іншага берага, дзе іх ужо чакалі людзі ў штацкім.

Затрыманні адбываліся на працягу ўсёй акцыі, было затрымана 38 чалавек. Падчас затрыманняў юнакоў збівалі. Лейтэнант міліцыі Бандарчук зваліў з ног Дар'ю Раткевіч і працягнуў яе некалькі метраў па асфальце. А ўжо ў пастарунку лейтэнант Новікаў так штурхнуў Кацярыну Шабан, што яна стукнулася галавой аб сцяну. Дзяўчына была дастаўлена ў шпіталь на "хуткай дапамозе", дзе ёй быў пастаўлены дыягназ "страсенне мазгоў". Сярод затрыманых былі дзве пенсіянеркі, якія гулялі ў гэты час у парку. 16 затрыманых былі дастаўлены ў спецпрымальнік-размеркавальнік на выліцы Акрэсціна, астатніх вызвалілі да суда.

З панядзелка каля сцен спецпрыёмніка свабодныя "зубры" правялі шэраг акцый у падтрымку зняволеных. Спачатку санітар прывёў яшчэ аднаго вусатага чалавека, і той пачаў крычаць: "Я настаяшчы прэзідэнт! Мяняйце мяне на ненастаяшчых, што сядзяць зараз!". Калі на даляглядзе замаячылі міліцэйскія патрулі, "вусаты" збег. Затым яшчэ тры разы на працягу двух дзён невядомыя аднекуль крычалі ў мегафон: "Зубры! Трымайцеся! Мы чакаем вас! Мы верым у вас! Мы памятаем аб вас! Рэжым адкажа за свае злачынствы!..".

З самай раніцы 25 красавіка ля будынка суда Партызанскага раёна пачалі збірацца "зубры", каб падтрымаць сваіх сяброў. 16 чалавек былі дастаўлены са спецпрыёмніка ў "аўтазаке". Некаторыя з іх правялі ў цеснай і душнай жалезнай каробцы ўвесь дзень, чакаючы судоў, якія ішлі неспыняючымся патокам. Аднак маладыя людзі не падалі духам і бавілі час, спяваючы патрыятычныя песні і тапочучы нагамі.

62-гадовай пенсіянерцы Святлане Данілавай такое правядзенне часу не было так жа прыемна, як юнакам, аднак суд над ёй адбыўся толькі ўвечары. Суправаджаючыя міліцыянты адмовіліся адчыніць дзверы, нават калі бачылі, што жанчыне становіцца млосна. Як высветлілася пазней, такія адносіны да пенсіянеркі тлумачацца тым, што падчас затрымання ў яе былі адабраны бутэлькі. Сёння збіранне бутэлек — адзіны сродак выжывання для многіх пенсіянераў нашай краіны, але пільныя супрацоўнікі міліцыі, якія нават у дзень псіхічнага здароўя хварэюць на параною, палічылі, што пенсіянерка падносіла "снарады" на выпадак хваляванняў.

Усіх "зуброў" абвінавачвалі ў парушэнні часткі 1 артыкула 167 КаАП, па якой ім пагражала да пятнаццаці сутак арышту. Сведкамі выступалі міліцыянты. Задзейнічаны былі таксама доблесныя лейтэнанты Зміцер Бандарчук і Уладзімір Новікаў, якія праявілі геройства, збіваючы дзяўчат, аднак сваёй пагарды да іх не хавалі нават калегі.

Міліцыянты ўвесь час блыталіся ў паказаннях, не маглі вызначыцца, ці з'яўляюцца лозунгі кшталту: "Долой дурака!" ці "Скажем дураку нет!" палітычнымі. Аднак, відаць, суду была спушчана дырэктыва "зверху", таму не было вынесена ніводнага апраўдальнага прыгавору. Суцяшае тое, што ўсем юнакам былі вынесены папярэджанні, а да трох сутак арышту былі прыгавораны толькі тыя, хто ўжо іх адбыў, таму ўсе "зубры" выйшлі на свабоду. Дваіх юнакоў, якія скокнулі з лыжамі ў Свіслач, прыгаварылі да штрафу ў 20 мінімальных заробкаў. Гэтыя штрафы будуць аплачаны праваабарончым цэнтрам "Вясна".

Спіс асуджаных за народныя гулянні ў Дзень псіхічнага здароўя:

*Тоўсцік Ірына — трое сутак арышту,*
*Раткевіч Дар'я — трое сутак арышту,*
*Драздоў Уладзімір — трое сутак арышту,*
*Ахадаў Намік — трое сутак арышту,*
*Канстанцінаў Андрэй — трое сутак арышту,*
*Сцешык Яраслаў — трое сутак арышту,*
*Карповіч Раман — трое сутак арышту,*
*Боган Аляксандр — трое сутак арышту,*
**Арцюшкевіч Дзяніс — штраф у памеры 20 мін. заробкаў,**
**Сяляўка Антон — штраф у памеры 20 мін. заробкаў,**
*Садоўскі Пятро — папярэджанне,*
**Бурая Вольга — папярэджанне,**
**Чэрнік Наста — папярэджанне,**
**Кучко Таццяна — папярэджанне,**
**Апраніч Алесь — папярэджанне,**
*Фідэльман Кірыл — папярэджанне,*
*Струй Віталь — папярэджанне,*
**Шабан Кацярына — папярэджанне,**
**Іваненка Зьміцер — папярэджанне,**
*Данілава Святлана — папярэджанне,*
**Паўлючэнка Ірына — папярэджанне,**
*Крыўко Андрэй — папярэджанне,*
**Марозава Таццяна — папярэджанне,**
*П'яных Сяргей — суд перанесены на 3.05.01 г. на 10.00,*
*Жэрбін Валеры — суд перанесены на 7.05.01 г.,*
*Афнагель Яўген — суд перанесены на 7.05.01 г. на 11.00.*

(Курсівам выдзеленыя асобы, якія знаходзіліся з вечара суботы па вечар серады за кратамі спецпрымальніка-размеркавальніка на вуліцы Акрэсціна.)

**Алег БЕБЕНІН.**



Пр. Васілісы, Настассі, Анастасія, Андрэя, Дзяменція, Кандрата, Лук'яна, Трафіма.
К. Валеры, Людвіка, Паўла, Пятра.

КРАСАВІК
**28**
СУБОТА

| ☉ | ☽ |
|---|---|
| Усход 5.40 | Перш. квадра 30 красавіка |
| Захад 20.36 | Захад 1.44 |
| Даўж. дня 14.56 | Усход 9.06 |

